Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.  Цана асобнага нумару 25 грош

№ 28—(68).  Вільня, 25 жніўня 1928 году.  Год II.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

Wilno
„Przegląd Wileński"
Uniwersytecka 9

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
| --- | --- | --- |
| Wilno (Вільня), Сьвятаянская вул. (ul. Świętojańska) № 9, кв. 1. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за $^1/_2$ — 65, за $^1/_4$—35, за $^1/_8$—20 зл. За міліметравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## На бездарожжы.

Пасьля летняга перарыву пачынаецца новы школьны год. І ў кожнага беларуса, які прывязвае значаньне да роднае школы, паўстае пытаньне, якім будзе гэты год для беларускага школьніцтва.

Беларуская школьная справа, пасьля друкаваных на старонках „Беларускага Дня" праграмных дэкларацыяў краёвае групы паслоў з Блёку Супрацоўніцтва з Урадам, не пасунулася за лета ані на крок. Летась адбыліся два курсы беларускае мовы для вучыцялёў, сёлета, апрача ўспомненых дэкларацыяў, мы ня бачым ніякіх рэальных пачынаньняў.

Беларуская прэса таксама перастала цікавіцца і гаварыць аб гэтым вельмі важным пытаньні.

Тымчасам справа беларускае школы, сярэдняе і пачатковае, вымагае як-раз найбольш уважлівага адношаньня з боку ўсіх беларускіх культурных і палітычных арганізацыяў ды нават і паасобных людзей.

Разумная дэклярацыя паслоў з адзінкі сьведчыць аб істнаваньні магчымасьці памыснага развою для беларускага школьніцтва, але гэта не звальняе беларускага грамадзянства ад абавязку апекі над сваею школаю і ад стараньняў паставіць школьнае пытаньне на парадак дня перад усімі іншымі справамі. А як-раз, судзячы па апошніх падзеях, гэтае пытаньне апынулася на бездарожжы. Таварыства Беларускае Школы, якое вядзе Віленскую Беларускую Гімназію, адкуль выйшлі вясною першыя беларускія паўнапраўныя матурысты, зрабіла вялікую памылку, разьвязаўшы дагавор з грам. Сэвэрынам Выслаўхам, вучыцелям гэтае гімназіі, які вельмі многа зрабіў для першае матуры ў двух беларускіх гімназіях. Адкідаючы грам. Выслауха ад працы ў гімназіі, Таварыства Бел. Школы кіравалася нейкімі матывамі, якія ня маюць нічога супольнага са школай і бязумоўна зьяўляюцца шкоднымі для беларускае школьнае справы. Мы аддаўна знаем грам. Выслаўха, як шчырага краёўца, шчырага прыхільніка беларускага руху і шчырага прыяцеля беларускае школы.

У апошнія гады, пачынаючы ад 1926 г., Таварыства Беларускае Школы, найпаважнейшая культурная ўстанова, пайшла па лініі палітычных камбінацыяў і экспэрымэнтаў, а да голасу ў ім даходзілі безадказныя людзі.

Гэта аслабляла працу Таварыства Беларускае Школы, адсоўвала ад удзелу ў ёй паважныя сілы, а на мясцох не давала належнага эфэкту дзеля таго, што сама арганізацыя, дзякуючы палітычным экспэрымэнтам Управы Т-ва, падлягала, часта ня слушна, пад падазроннасьць з боку ўлады. Такім чынам марнаваліся высілкі людзей добрае волі і ахвоты да працы на вёсцы, а ў цэнтры адсоўваліся здольныя работнікі ад арганізацыі.

Марнаваць беларускія сілы нельга і такая палітыка зьяўляецца праступкам перад Народам.

Таварыства Беларускае Школы, лучыў-

шае перад Грамадою ўсе культурныя сілы, цяпер гэтак сама мусіць абнавіцца новымі культурнымі сіламі і стацца арганізацыяй усяго беларускага грамадзянства. Толькі тады ня будзе месца на такія шкодныя крокі ў працы Таварыства, як няўдзячная і бязмэтная, а палітычна вельмі неразумная, адмова Таварыства на працу грам. Выслауха ў Віленскай Беларускай Гімназіі.

Таварыства Беларускае Школы павінна вясьці толькі шчырую, толькі культурна-асьветную работу і ў гэтай сваёй дзейнасьці павінна ізноў злучыць усе культурныя беларускія сілы бяз розьніцы палітычных паглядаў, выкінуўшы палітыканства з арганізацыі, якую палітыка забівае.

Тады магчыма будзе здабыць правы для гімназіяў, пашырэньне сеці пачатковых школаў і адкрыць патрэбныя курсы, і тады, мы верым, праца Таварыства спаткаецца з прыхільнасьцю з боку Ураду, які ня можа глядзець крыва на культурна-асьветную работу на беларускіх землях, дзе яе так многа і дзе такая патрэба асьветы і культуры.

## Прамова Маршалка Пілсудскага на зьезде легіёнэраў у Вільні 12.VIII.28.

Да прамовы Маршалка Пілсудскага на зьезде ў Вільні прывязывалі вялізарнае значэньне ня толькі ў Польшчы, але і заграніцай. Сьведчыць аб гэтым тое, што на зьездзе было шмат заграніяных карэспандэнтаў. Былі нават літоўскія карэспандэнты, якія, прыехаўшы на граніцу адумысным самаходам Вальдэмараса, дасталі дазвол на прыезд у Вільню.

Палітыкі спадзяваліся, што Маршалак Пілсудскі ў прамове закране справу зьмены канстытуцыі, як наагул дзяржаўных рэформаў. Тым болей, што па знанай заяве Маршалка Пілсудскага аб тым, чаму ён уступіў з ураду старшыні Рады Міністраў, думалі, што на зьездзе Марш. Пілсудскі скажа аб далейшых замерах Ураду.

Аднак Марш. Пілсудскі ў сваей прамове памінуў адумысна ўсе раздражняючыя мамэнты, а прамову пасьвяціў сваім мілым успамінам з легіёнаў. Як сам заявіў: „Калі ў Вільні гавару, не хачу ў сваей прамове ані скрыготаў, ані горычы“.

Гаворачы аб духу зьездаў лнгіёнэраў, сказаў Марш. Пілсудскі: „Калі палец Божы датыкае зямлі, стагоднія дубы к' зямлі гнуць шыю, а калі грымоты і маланка па зямлі ідуць, птушкі і людзі хаваюцца ў бясьпечных месцах. Калі палец Божы зямлі датыкае, калі йдзе такая вялікая вайна, якую мы перажылі, то зямля стогне і заклікае, а прысуды дзесьці ў небе высока пішуцца: для адных згуба, для другіх адраджэньне і, калі так вялікія часы ідуць, што сьвет на іншы пераменяюць, тады, Панове, часы гэткія ня ёсьць на меру грудзёў баязьліўцаў, на меру грудзёў пройдаў. Мусяць тады ісьці часы адраджэньня. Мае Панове! Калі мы ішлі ў поле, калі мы былі часткай, розьніліся мы ад усіх жаўнераў кругом і нічым іншым, як тым, што грудзі нашыя буйна чулі і пялі магутную песьню адраджэньня нашае зямлі.

І калі цяпер па толькі гадох спатыкаецеся, то песьню адраджэньня, якую тады сьпявалі грудзі вашыя, і да гэтай пары чуеце. Бо адраджэньне і вясна--то адно.

Калі ідзе адраджэньне, то ўсе фібры душы, усе фібры цела інакчай бьюць, інакчай сьпяваюць. І калі мы тады ішлі па нашай зямлі ў боях, калі сум, калі баі на нашай зямлі панавалі, то ішлі мы да бою, як да танца, веручы ў адраджэньне і думаючы аб адраджэньні“.

Далей пераходзіць Марш. Пілсудскі да сваіх успамінаў з часоў легіёнаў. Першы мілы ўспамін гэта час бітвы пад Касьцюхноўкай на Палесьсі, калі Пілсудскі спаткаў маладога хлапца-легіёнэра, які плакаў, дзеля таго, што бачыў, як Камэндант (Пілсудскі) мучыцца, а памагчы яму ня ўмеў.

Другі ўспамін, гэта апавяданьне аўстрыйскага маёра, з якога вынікае, што легіёнэры-франтавікі, здабытыя за адвагу аўстрыяцкія і нямецкія ордэры, насілі ў кішэні з-заду, а скромную адзнаку легіёнаў на грудзях. „Гэтыя чужыя ордэры, ношаны з-заду, а на грудзях думныя адзнакі з маімі літэрамі — гэта мая брыгада“ — казаў Марш. Пілсудскі.

Далей успаміны з спатканьня з падафіцэрамі падчас ваеннага сьвята. Розныя заграніччыя прадстаўнікі не маглі надзівіцца, што начальнік Дзяржавы п'е і братаецца з падафіцэрамі.

Апошні наймілейшы ўспамін, гэта калі седзячы ў нямецкай турме ў Магдэбургу, думаў і сумаваў аб Вільні.

„Мінула пару год і я быў ізноў разам з вамі і, калі лятуцеў і думаў аб Вільні ў варшаўскім Бэльвэдэры замкнёны, думаў таксама і аб вас.

**І калі заклікаў у бой, каб Вільню здабыць — вас да сябе паклікаў. Я лятуцеў, думаў, што два збратаны сэрцы дадуць мне тое, аб чым мая душа лятуцела. Вільня мусіць быць мая.**

„Вы былі маім найпэўнейшым жаўнерам, які мяне ніколі не здрадзіў на вайне, які мне даў усё, што жаўнер камандзіру даць мусіць.

Ішла вялікадняя пара, калі баталіён за баталіёнам, швадрон са швадронам, да Вільні сьпяшылі і была пагаворка сярод жаўнераў: „Камандант наш Вільню кахае, на Вялікдзень Вільню ў прэзэнце яму дамо. Прэзэнт (дар) пышны!

**І калі думаю, што ня судзячы нават аб важнасьці Вільні для нас, як прэзэнт, як пяшчоту для сэрца Каменданта, шмат вы мне далі і калі падумаю, што там дзесьці на Россе ля варот магілкаў, магілка за магілкай ляжыць адна пры другой, як жаўнеры ў шэрэгах, тыя што жыцьцё далі, каб Каменданту сэрца песьціць, то кажу, што мілым гэта мусіць быць, і калі сэрца сваё магілай паю, сэрца свае там на Россе кладу, каб павадыр адпачыў з жаўнерамі, што маглі так песьціць чало думнага павадыра, што маглі так жыцьцё даваць дзеля прэзэнту“.**

Заграніччая прэса, асабліва нямецкая, кажучы аб прамове Марш. Пілсудскага, называе яго вялікім палітыкам і добрым рэжысэрам, які сваім выступленьнем узмоцніў становішча Польшчы ў спрэчцы з Літвой і прычыніўся да адпружаньня палітычнай сытуацыі ў Дзяржаве.

# І-ая Паўночны кірмаш і Земляробска-Прамысловая Выстаўка ў Вільні.

У суботу, 18 жніўня г. г. адбыўся ўрачысты акт адчыненьня І Паўночнага кірмашу і Земляробска-Прамысловай Выстаўкі ў Вільні.

Ад імя Ураду адкрыў кірмаш міністар чугунак Кюн. Прамаўлялі, падчырківаючы значаньне таргаў для Віленшчыны і Дзяржавы, міністар Кюн і ваявода Рачкевіч.

На кірмашы згрупаваліся ў асобных павільёнах рожныя галіны промыслу.

Земляробскі аддзел дзеліцца на некалькі груп: Земляробскі, гадаўляны, агародніцтва і пчалярства, каапэратыўны і земляробскага школьніцтва. Ёсьць група земляробскай прадукцыі. Малачарства і яйчарства. Быдла.

Аддзел лясьніцтва месьціцца ў аддзельным павільёне. Абымае ён усе галіны рацыянальнай лясной гаспадаркі.

Промысел і гандаль занялі галоўны павільён выставы. Выстаўцаў ёсьць тут шмат, з рожных галін жыцьця. Скажам аб найгалаўнейшых:

Аддзел мэталёвы, земляробскія машыны. Есьць тут жалезныя адлевы, касьцельныя званы, машыны і прылады земляробскія, машыны да апрацоўкі лёну, млынскія машыны і рожныя іншыя жалезныя вырабы.

Аддзел хімічнага промыслу: мыдла, парфумы, мінэральныя алеі, лякер, калач і т. д.

Аддзел спажывецкіх артыкулаў: віно, канякі, кансэрвы і г. д.

Аддзел папяровага промыслу: фабрыкі паперы, гільзаў, машыны да пісаньня, карты да ігры.

Аддзел электрычны: машыны электрычныя і прылады;

Аддзел дамовага гаспадарства.

Аддзел спартовы.

Аддзелы: інжынерыі, мэліорацыі і будоўлі, самаходы, цукроўніцтва, шкло, сукно, фатрэпіяны, забаўкі, ровэры.

Аддзел народнага промыслу.

Дзяржаўныя манаполі займаюць даўны будынак тэатру. Памесьціліся тут: тытунёвы, спіртны і сольны манаполі. Робяць тут і прадаюць папяросы і разьліваюць гарэлку.

## Аддзел Беларускага Гаспадарскага Зьвязу на Земляробска-Прамысловай Выстаўцы ў Вільні.

На Земляробска - Прамысловай Выстаўцы ў Вільні меліся прыняць шырокі ўдзел дзьве беларускія арганізацыі: „Беларускае Навуковае Таварыства“ і „Беларускі Гаспадарскі Зьвяз“, які на мэты Выстаўкі атрымаў ад Дзяржаўнага Земляробскага Банку субсыдыі ў суме 3000 зл. З пачатку прыгатаўленьня да Выстаўкі прадбачылася, што Беларусы выступяць на ёй належна, тым больш, што ўласнае памешканьне Т-ва Беларускае Школы на падставе просьбы Навуковага Таварыства было ўлучана ў раён Выстаўкі, дык можна было мець сваё дармовае і вялікае памешканьне. Аднак з прыкрасьцю прыходзіцца зазначыць, што ўзаемная партыйная нязгода сярод віленскага беларускага грамадзянства пашкодзіла і гэтай паважнай справе, якой зьяўляецца для Беларусаў належнае выступленьне на Выстаўцы. Ужо ў хуткім часе, меўшаеся стварыцца супольнае выступленьне на Выстаўцы вышэйўспомненых беларускіх арганізацыяў, развалілася як вынік вонкавых палітычных уплываў,

---

# Якуб Колас — пяюн беларускае прыроды.

(Гл. № 27 „Б. Д.“).

Летні вечар так апісаны паэтам:

„ А вечар чуткі, гутарлівы  
Разносіць гоман, сьмех шчасьлівы  
І ў сэрцы паліць парываньні  
І тчэ красёначкі каханьня,  
Ружовы захад повен ласкі  
І ціха зьвісьлі агнепаскі,  
Брыжы, тасемкі і каралі,  
Адзеньне хмаркі пазьнімалі  
І самі леглі спаць на ночку,  
Адзеўшы лёгкую сарочку;  
І гасьне дзень ў задуменьні  
Як гаснуць жыцьця лятуценьні“.

А вось апісаньне марозу:

„І вось надарыцца часамі  
Мароз над ўсімі маразамі;  
Ідзе сярдзіта пагражае,  
Па даху гонтамі страляе;  
У завітушках дым бялявы  
Нясе, як воблак кучаравы  
І потым з ім на бок рванецца  
Бы пісар-вухар расчаркнецца.  
А як ваконцы размалюе  
І розных дзіваў там намосьціць,  
Яму аматар пазайздросьціць,  
І прад марозам ён спасуе.  
Мароз-штукар і жарты любіць,  
Ня раз, шуткуючы загубіць  
Таго, хто ў рукі пападзецца,  
Яшчэ над бедным пасьмяецца:  
„Прыляж, бядага, ты з дарогі —  
Ня блізкі хатнія парогі“ —  
Мароз дарожным падпявае:  
„Лажысь — пасьцелька пухавая  
І ўся агоньчыкамі зьяе,  
Засьні, сагрэйся, мой пахілы,  
Пакуль табе прыбудуць сілы,  
А я салодкі сон навею  
І гэтай казкаю сагрэю“.  
І хто паддасца нагаворам,  
Засьне на векі пад прасторам  
Халодных зор, сьнягоў глыбокіх,  
Сярод дарожак адзінокіх.  
Мароз мастак, і пыху поўны,  
Узносіць слуп на неба роўны,  
Высокі, вогненны, крывавы,  
Той слуп і страшны і цікавы,  
Гарыць злывешча, увесь чырвоны,  
Мароз на небе ставіць троны,  
Вянцы на месяц ускладае  
Па сьнезе зоркі рассыпае  
І так прыгожа, так старанна

а абедзьве гэтыя арганізацыі меліся выступіць паасобна. Аднак і гэта было-б яшчэ поўбяды, калі-б „Навуковае Т-ва“ і „Зьвяз“ хоць-бы паасобна, належна выкарысталі гэтую магчымасьць, але вось у апошні час Беларускае Навуковае Таварыства з неаснованых прычынаў адмовілася ўзяць удзел на Выстаўцы, паміма таго, што ўжо мела многа сабраных выставачных экспанатаў.

Такім чынам, з усіх беларускіх культурна-асьветных і гаспадарскіх арганізацыяў, прыняў удзел на Выстаўцы толькі „Беларускі Гаспадарскі Зьвяз“.

Цяпер пару слоў аб аддзеле Зьвязу.

З пасярод многіх павільёнаў регіёнальнай (краёвае) Выстаўкі, Аддзел Беларускага Гаспадарскага Зьвязу, паміма вельмі цеснага памяшчэньня, займаець адно з першых месцаў і заслугоўваець на асаблівую ўвагу.

У трох невялікіх пакоях, удэкараваных тканінамі з беларускімі народнымі ўзорамі, сабранымі з розных паветаў Заходняе Беларусі, знаходзяцца рэчы беларускага хатняга промыслу, пераважна тканіны, характэрызуючыя розныя мясцовасьці вырабу.

Усе іншыя павільёны хатняга промыслу зьмяшчаюць таксама амаль вылучна беларускія народныя вырабы. Асаблівую ўвагу прысутных зьвяртаюць беларускія народныя калёры, дзе панад усімі пераважаець коляр чырвоны, як характэрыстычная асаблівасьць беларускай народнай эстэтыкі. У адным з пакоеў на сьцяне вісіць партрэт, убраны вышыванымі ручнікамі і паясамі, Францішка Скарыны—першага беларускага друкара, выкананьня знанага мастака Язэпа Драздовіча. Усё гэта разам робіць мілае ўражаньне, дзе чуешся сярод свайго бліскага, роднага, беларускага.

Адным словам, трэба зазначыць, што паміма ўсіх труднасьцяў і перашкодаў беларускі аддзел на Выстаўцы заслугоўваець на асаблівую ўвагу і ўсе тыя недахопы, якіх ёсьць многа ў кожным беларускім пачынаньні, пакрываюцца рэчамі дадатняга характару.

Гэты першы выступ Беларусаў на Выстаўцы пад фірмаю Беларускага Гаспадарскага Зьвязу, застаецца толькі прывітаць шчырымі словамі ўзнаньня, як і кожнае беларускае пачынаньне на культурна-гаспадарчай ніве, і пажадаць каб на другі раз Беларусы выступілі супольна, пакрыўшы ўсе тыя недахопы, якія сустракаюцца сяньня.

Застаецца верыць, што гэта ўсё ў недалёкай будучыні споўніцца і кожная справа, маючая вялікае культурна-гаспадарчае значэньне для Беларусаў, як Выстаўка, будзе трактаваная ня з пункту гледжаньня нізкай партыйнай грызьні сярод беларускага грамадзянства, а з пункту гляджаньня карысьці Беларускага народу.

*Рт.*

## БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

### Звальненьне з вастрогу.

Звольнены з вастрогу арыштаваны перад некалькі днямі Пасынак-Шчасны, які скончыў у гэтым годзе Віленскую Беларускую Гімназію.

### Новая Беларуская часопісь.

У найбліжшых днях пачне выходзіць новая беларуская часопісь пад наз. „Скарб Беларуса“. Новая часопісь будзе выходзіць два разы ў ме-

Бярозе белай тчэ убрэньне,
Бы той дзяўчыне пад вянчаньне.
Мароз паважны. Як вяльможа,
Знасіць сваволыніцтва ня можа,
І на той час, як ён пануе,
На небе хмарка не вандруе,
І ўсе стварэньні занямеюць
І патыхаць вятры ня сьмеюць,
Усё ціха, мёртва, нярухома.
Сядзіць зьвяр'ё між буралому
І знаку жыцьця не пакажуць,
Вароны дзюба не разьвяжуць,
Ўсё нахахорыцца, ні зыку —
Уладарства холаду вяліка.
І верабей з усёй раднёю
Ня шкне, схаваўшысь па страхою.
Адзін мароз адно ўладае,
На ўсё ён рукі накладае,
Усё гне халоднаю нагою;
І лес пад сінею смугою
Застыў, стаіць як амярцьвелы,
Башлык надзеўшы чысты, белы,
І толькі ён, мароз заўзяты,
Мароз занадта зухаваты,
Адзін па лесе пахаджае
Во роўных ён сабе ня мае“.

Толькі бліскае прыродзе сэрца, якое разумее і адчувае яе, можа даць такое апісаньне аднае з найпрыгажэйшых праяваў нашае зімы.

Пясьняр ажыўляе праявы прыроды, прадстаўляе іх жывымі, думаючымі і дзеючымі падобна таму, як гэта робяць людзі. Гэтае ажыўленьне прыроды, калі пры тым яно вельмі выразна і характэрыстычна адмалявана, зьяўляецца найвялікшай заслугай песьняра і выказвае талентнасьць і мастацтва ягонага пяра.

Прырода і чалавек у прадстаўлерьні Коласа вяжуцца разам, жывуць вельмі бліска сябе, якбы адчуваюць адзін другога і наадварот. Побач з мастацкасьцю маляваньня беларускага быту, гэтае адтварэньне ўмілаваўшага нашую прыроду песьняра з усімі яе краскамі і прыгожасьцю робяць Коласа зразумелым і бліскім для кожнага беларуса. Колас адкрывае красу прыроды, зблізкае нас да яе, вучыць шанаваць і любіць нашае лета, зіму, вясну, рэчку і луг, лес і ўсё багацьце, якое бачым кругом, хоць часта ня хочам зьвярнуць на яго ўвагі.

Пясьняр, як добры псыхолёг, вяжа ўспаміны дзіцячых гадоў з праявамі прыроды, якія давалі некалі кожнаму з нас столькі радасных перажываньняў. Па прачытаньні поэзіі Коласа чытач маладзее душою.

Прыход зімы так прадстаўляе нам пясьняр:

„Дзяцінны час!... Я памятаю
Зімы прыход у нашым краю.
Стаіць над лесам шум маркотны,

сяц і будзе пасьвячана грамадзка-цэркоўным справам. Часопісь будзе выдавацца знаны з працэсу „Грамады“ сьвяшч. Коўш.

### Кс. Гадлеўскі прэфэктам польскае гімназіі Візыткаў у Вільні.

Звольнены па поваду амністыі беларускі нацыянальны змагар кс. Гадлеўскі, назначаны віленскім арцыбіскупам Ялбжыкоўскім, вучыцялям Божага Закону ў польскай гімназіі Візытак у Вільні. Гэтае назначэньне выклікала агульнае зьдзіўленьне ня толькі сярод беларускага грамадзянства, але і лепшай часткі польскага. Назначэньне гэтае дабітна сьведчыць аб адносінах віленскага каталіцкага мэтрапаліта да беларусаў. Беларусы ксяндзы назначаюцца ў польскія парахвіі або польскія гімназіі, а розныя кс. Дронічы працуюць у Жодзішках.

### Чаму ня выходзіць „Сялянская Ніва“?

Як падае „Kurjer Wileński“, Сялянская Ніва, ворган Беларускага Сялянскага Саюзу, ад доўжшага часу не выходзіць з прычыны недахопу адказных рэдактараў, якім па некалькі канфіскатах грозіць судавая адказнасьць.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Хутары, гэта направа сялянскага жыцьця.

Не аднойчы ў „Бел. Дні“ пісалася аб патрэбе і канечнасьці пераходу на хутары. Пісалася даволі падрабязна аб тых вялікіх карысьцях, якія зьвязаны неадлучна з хутарнай гаспадаркай.

Я хацеў-бы апісаць як жывецца на хутары, у мясцовасьці, дзе перайшлі на хутарную гаспадарку ўсяго два гады таму назад і ці на хутары гаспадар лепш гаспадарыць і жыве.

Перад гэтым адзначу, што ў м. Сухаволі, Сакольскага пав., аб якім буду пісаць, думка пераходу на хутары была ўжо даўно. Каб не вайна 1914 доду, хутары былі б ужо даўно. Па вайне тым больш болей сьвядомыя гаспадары разумелі канечнасьць пераходу на хутары і паляпшэньня сваe гаспадаркі з увагі хаця-б на тое, што паваенныя варункі сялянскага жыцьця сталіся далёка труднейшыя і трэ‘ было якім колечы спосабам ратавацца, каб паправіўшы сваю гаспадарку, мецць з яе большыя карысьці і даходы.

Ведама, пры чэразпалосіцы, шнуроў кожны гаспадар меў болей чымся па 50, рожнай шырыні, залежна ад гаспадара. Былі і такія шнуры, што возам на свае поле ня ўедзеш. Пакуль сусед ня зьбярэ з поля то і ты не зьбярэш, хіба эраплянам...

Шнуры былі далёка ад хаты, часам далей ніж за 5 вёрстаў. Ня было нават мовы аб тым, каб зямля была добра дагледжана, ўдобрана. Таму і ўраджай заўсёды быў слабы. Пры гэтым ня ведама ніколі было, ці пасеяўшы зьбярэш, бо найчасьцей спасалі.

Другая рэч, мястачка мела супольнае пастбішча, на якім пасьліся ня толькі сьвіні, авечкі,

---

На небе хмары, як палотны,
Паўночны вецер расьцілае,
І бель над далямі зьвісае.
І ціха стане на падворку,
І лес жалобную гаворку,
Свой гоман восені канчае
І моўчкі зіму сустракае.
А сетка белая гусьцее,
І бліжай, бліжай сьнегам сее.
І вось над хатай, над гуменцам
Сьняжынкі жвавыя гуляюць,
Садок і дворык засьцілаюць
Бялюткім, чыстым палаценцам.
І тут у хаце ня ўтрываеш:
Кажух на плечы накідаеш,
Бяжыш на двор, як той шалёны,
Крычыш, гукаеш здавалены,
Зямлі ня чуеш пад сабою
І ловіш белы пух рукою.
Ўгару зірнеш — як рой пчаліны,
Снуюцца ціхія пушыны,
Угары зьнячэўку штурханууца,
Глядзіш — і ў пары пабяруцца.
— О го-го-го, брат! — дзядзька кажа:—
Цяпер зіма напэўна ляжа!
За санкі трэба, Кастусь, брацца,
Эх, будзеш мецць дзе разгулянца!
І Костусь рады і давольны:
Цяпер гулянак сьвет раздольны,
Адкрыты новыя пуціны
У круг забаў яго дзяцінны;
І ён ад радасьці трасецца
Ды ў мягкім сьнезе скачанецца.
А сьнег станоўка і заложна
Так і шуфлюе. Лес набожна
Стаіць, маўчыць і ўсё сьвятлее,
Як-бы, здаецца, весялее.
Назаўтра ўстанеш — сьвет зьмянёны,
У новых хутрах вербы, клёны,
І ўсюды чыста, бель такая
Што проста вочы адбірае.
У парках шулы, як салдаты,
Стаяць у струнку зухаваты,
Башлык высокі, шапкі новы,
„Ура!“ гукнуць табе гатовы“.

*„Новая Зямля“ — Якуб Колас.*

Чытаючы гэта, кожны перажывае радасны ўспамін таго шчасьлівага дзяцячага веку, калі жыва і радасна прымаліся праявы красы прыроды, калі мы самі былі бліжэй і радней здружыўшыся з ею. У гэтым вялікае значэньне творчасьці Коласа. Пясьняр зблііжае нас да роднае натуры, адкрывае яе нам і абнаўляе душу кожнага ў мастацкіх малюнках бязмернае красы нашага пыгожага краю.

*С.*

коні і каровы гаспадароў, але і жыдоўскія і ўсіх, хто толькі хацеў, ці ён меў сваю гаспадарку, ці яе ня меў. Таму пашы летам ніколі не ставала, каровы былі галодныя, малака ня было. Хто меў сваіх пастушкоў, а каго вялікая сям'я, той пас у полі, выпасаючы чужы гарох і іншае збожжа. Гаспадарка была трохпалёвая. На ўгоры ніхто амаль нічога ня сеяў, бо і так ня зьбярэш, дзеля таго, што спасуць. Словам, жыцьцё гаспадара прадстаўлялася вельмі сумна. Ня было ахвоты працаваць і палепшываць гаспадаркі, бо праца над паляпшэньнем патрабавала шмат труду, а прыносіла мала карысьці.

Здавалася-б, што няма ў нас такіх цёмных людзей, якія-б не разумелі, што пераход на хутары—гэта шлях да направы іх жыцьця. Але дзе там. Знайшліся ворагі хутароў, якія шмат працы сваей і грошай кінулі на тое, каб хутароў ня было. Некатарыя з іх былі такія пэўныя, што хутароў ня будзе, што хваліліся, быццам скарэй сасна на іх далоні вырасьце, чымся будуць хутары. Як кажуць, абы было балота — дык чэрці знойдуцца.

Сьведамыя адзінкі не апускалі рук і працавалі. У рэшце на некалькі гадовых стараньнях мястэчка перайшло ў 1927 г. на хутары. Такім чынам гаспадараць людзі ўжо другі год на хутарох. Паўстае пытаньне, ці палепшала на хутарох. На пытаньне гэтае ёсьць адзін толькі адказ. Так, палепшала, ня гледзячы на тое, што яшчэ толькі 2 гады на хутарох гаспадараць. Усе, бяз вынятку, нават заўзятыя ворагі хутароў, цяпер вельмі задаволены і ні за што не хацелі-б гаспадарыць па старому. Пачаў цяпер кожны кратацца каля сваей гаспадаркі, папраўляць яе. Трохпалёўка вышла з моды, ўсё поле гаспадар абсявае, адпаведна дастасовываючы пладазьмен.

Зборка збожа павялічылася ў некаторых больш, чымся ў двое. Кожны сваю гаспадарку паляпшае, ужываючы штучных і натуральных гнаёў. Дастаўшы кусок выпусту, мае дзе пасьвіць каровы, якія даюць болей малака. Некатарыя гаспадары заставілі выпуст на сенакос, а ў полі засеялі сэрадэлі і іншых пастэўных траваў, так што каровы прыходзяць наеўшыся, як горы.

Да гэтай пары, калі хто і меў надмер малака, то ня меў з гэтага ніякай карысьці. Усё ішло в канечнасьці на ўласныя патрэбы. Вялікая частка марнавалася. Цяпер-жа па пераходзе на хутары, закраталіся людзі, каб адчыніць малачарню. І адчынілі. Усе, хто можа, нясе малако ў малачарню, ведама пакідаючы частку на свае патрэбы. За малако атрымлівае кожны гаспадар сярэдня ад 40-80 зл. у месяц. Вось знайшоўся грош на соль, падаткі і іншыя гаспадарскія расходы. Пры шахаўніцы і думаць аб малачарні нельга было.

Пры гэтым мушу адзначыць адзін сумны факт. Адным з найбольшых ворагаў малачарні быў мясцовы ксёндз пробашч. Казаў ён: „Калі хочаце, каб вашыя дзеткі ў сухоты паўпадалі, насіце малако ў малачарню“. Ведама, бабы-дэвоткі пачалі за ксяндзом агітацыю процію малачарні. Але агітацыя гэтая малачарні шмат не пашкодзіла.

Мушу адзначыць, што ксёндз выступаў процію малачарні не таму, каб шкадаваў дзяцей сялян, але баяўся, што перастануць яму насіць масла, сыры і г. д.

Далей паўстаў у нас каапэратыўны банчок, так. зв. Каса Стэфчыка, мэтай якога даваць крэдыты селяніну.

Людзі цяпер шмат працуюць над сваімі хутарамі. Пачалі рабіць усё, каб гаспадарку сваю падняць, каб даходы з яе павялічыць.

Па двох гадох гаспадараваньня на хутарох, усе пераканаліся, што толькі хутарная гаспадарка дасьць гаспадару такія даходы, каб ён мог прежывіць сябе і сям'ю. З кожным годам жыцьцё на хутарох будзе папраўляцца, аб чым перакананы самі гаспадары.

# Як вясьці сяньня гаспадарку, каб мець даход.

*(Гл. № 26 (66) „Бел. Дня“).*

Галоўным збожжам нашага сялянства зьяўляецца жыта. Пад жыта йдзе трэцяя часьць поля пры пануючай у нас дагэтуль трохпалёўцы.

„Хто мае жыта, той мае ўсё“, кажуць нашыя сяляне і найбольш поля бяруць пад жыта. Ярына, г. зн. ячмень, авёс, мяшанкі, займаюць толькі палову плошчы поля, якое аддаецца пад жыта. Такім чынам калоснае збожжа —азіміна і ярына займаюць больш, ніж палову ўсяго поля. Пад расьліны акаповыя, г. зн. кармавыя буракі і бручку ідзе вельмі мала поля. А таксама мала поля аддаецца пад канюшыну, віку і другія кармавыя травы, — а ў выніку ўсяго гэтага сяляне мала маюць добрае пашы для жывёлы як зімою, так і летам. Нашыя дробныя гаспадаркі гадуюць пераважна збожжа каласістае, а тымчасам хаваюць жывёлы шмат, бо досьледам практыкі дайшлі да пераканаўня, што даходнасьць гаспадаркі залежыць ад гадоўлі жывёлы, што гадаўляны напрамак у гаспадарцы найлепш аплачваецца. Цяпер перад намі пытаньне, чым-жа карміць селянін сваю жывёлу? Кармавых буракоў, бручкі і морквы ня сеюць, сена ліхое, а пасьбішча вельмі благое. І такім чынам маем з аднаго боку ўпраўу каласнога збожжа, а з другога шмат быдла. Яно ня мае належнага і добрага корму і вось ад гэтуль узьнікаюць труднасьці нашае гаспадаркі. Быдла корміцца блага, яно не даядае, малака сяляне маюць мала, але і гною таксама мала, бо блага кормленая жывёла дае слабы гной. А таксама ўсе ведаюць добра, што нашыя землі без гною ня родзяць. Гной зьяўляецца першым варункам даходнасьці зямлі і ўсяе гаспадаркі. Штучных гнаёў сяляне ўжываюць мала, а зялёных таксама ня шмат, і вось дзеля нястачы натуральнага гною і благое пашы, зямля перастае радзіць, так як радзіла перш, калі яшчэ былі запасы корму ў зямлі і не дае такога ўраджаю, які можа ў сапраўднасьці даваць.

*Адзіны спосаб папрaвіць гэтую бяду: зьменшыць ўпраўу збожжа калоснага і павялічыць засевы кармавых расьлінаў.* Абодва гэтыя спосабы павялічаць у многа разоў даходнасьць гаспадаркі. Бо, калі менш гаспадар будзе сеяць збожжа, гэтым самым лепш угноіць гэты меншы кусок поля. А пасеяўшы больш кармавых расьлінаў, атрымае ён больш добрае і пажыўнае пашы, патрапіць лепш карміць жывёлу і будзе мець больш з яе даходу, а апрача таго, больш гною і добрага гною, багатага ў азот. Гэтым гноем здоляе лепш угнаіць поле і з меншага куска зямлі, узятае

пад коласнае збожжа, атрымае ўраджай лепшы, чымся з большага, калі пад гэтыя каласныя расьліны браў вельмі многа поля.

Дзеля гэтага цяперашні спосаб гаспадаркі нашых сялян, калі яны пад калоснае збожжа бяруць шмат ральлі і мала сеюць кармавых расьлінаў, зьяўляецца вельмі шкодным, і гэтая надмерная гадоўля жыта, аўса і ячменю, не дапускае павялічэньня даходнасьці гаспадаркі і падняцьця зямельнае культуры ў ёй. На гэтым упадабаньні да калоснага збожжа вырасла трохпалёўка, яно дае селяніну шмат малакарыснае працы ў часе жніва, не дапускае лепшага абрабленьня ральлі і выклікае бязупынны недахоп пашы для жывёлы, якая, дзеля благога корму, не дае добрага, а часта і ніякага, даходу. Прыглядзеўшыся да сялянскіх кароў, якія блукаюцца па агульным пасьбішчы, дзе ўсё выедзена і падоптана, бачым, што гэтыя каровы жывуць, галадаючы.

Вельмі важнай справай у гаспадарцы зьяўляецца тое, у якой калеі, што пасьля чаго сеецца з году ў год. Найчасьцей ў нас дагэтуль, пры трохпалёўцы, жыта сеюць пасьля папару, пасьля жыта ярыну, а там ізноў папар. Але пры папары, пры захаваньні трохпалёўкі мала дзе хапае хлеба і гаспадар на трохпалёўцы ніякага даходу з зямлі ня мае. Яго работа прападае дарма.

Толькі пры шматпольнай гаспадарцы можа селянін атрымаць даход, і ў яго ня толькі хопіць хлеба, але заўсёды будзе лішні грош на ўсе патрэбы.

Найлепшай аказалася 6-ціпалёўка. Парадак зьмены ў засеве палетак пры ёй гэткі:

1) бульба, кармавыя буракі, рэпа — г. зв. акаповыя на гною;

2) ячмень і авёс;

3) канюшына (клевер), або мяшанкі канюшыны з травою.

4) жыта, ці пшаніца;

5) кармавыя мяшанкі (віка) і струкавыя расьліны на поўгною;

6) жыта, ў жыці сарадэля.

Пры гэткім падзеле ўсяе зямлі на 6 палетках даходнасьць зямлі павялічыцца ў многа разоў.

**Штучныя гнаі.** Кожны гаспадар добра ведае, што бяз гною зямля ня родзіць. I найлепшая ральля, калі з яе будзем толькі браць, а не дамо гною, ўрэшце зьлячае, зьдзічэе і перастане даваць ўраджай. А дзеля таго, што трудна мець гэтулькі натуральнага гною, каб яго было пад ўсе расьліны і збожжа, дык трэба зьвярнуцца да штучных гнаёў. Яны, праўда, дарагія, але дадзеныя ў меру і ў тым гатунку, якога патрабуе зямля, аплачваюць у многа разоў усе выдаткі і павялічваюць даходнасьць гаспадаркі.

Якія гнаі даваць для ральлі і ў якой колькасьці—на гэта аднаго рэцэпту няма. Гной патрэбны не зямлі, а той расьліне, якая расьце на ёй, і дзеля гэтага розныя расьліны вымагаюць розных гнаёў. Апрача таго, кожная зямля мае сваю патрэбу на такі, ці іншы гной. I найлепшым спосабам пазнаць, якога штучнага гною патрабуе расьліна, ці то жыта, ці авёс, ці бульба, ці другія расьліны, а таксама зямля кожнага селяніна, зьяўляюцца гэтак званыя „пробныя палеткі".

Кожны павінен сам выпрацаваць, на якім гною найлепш удаецца яму тое, ці іншае збожжа, а тады ўжо сьмела можа кідаць гэты выпрабаваны штучны гной пад тое збожжа.

Пад жыта добра ўжываць гнаёў *фосфарных*. Пад кармавыя буракі і авёс вельмі падходзяць азатнякі.

Таксама вельмі добрыя ўраджаі бываюць ад патасовых гнаёў, асабліва на грунтах слабейшых.

Даецца паташ пад бульбу, ячмень, канюшыну (клевер).

Фосфарныя гнаі памагаюць узросту ўсялякіх расьлінаў і збожжа, апрача бульбы.

**Сенажаць і пасьбішча.** Мо' аб ніводнай галіне гаспадаркі нашага селяніна так мала ён дбае, як аб сенажаці. Сенажаці і пасьбішча найчасьцей або сухія, або мокрыя, залітыя вадою, дзеля чаго карысьць з іх малая, а сена благое, вельмі кіслае, яно не дае ніякае карысьці жывёле, якая часта есьць такое сена толькі з голаду.

Каб палепшыць гадоўлю жывёлы, а гадаўляныя гаспадаркі аплачваюцца найлепш — абавязкова трэба давесьці ў парадак сенажаці і пасьбішчы.

Агульнае для ўсяе вёскі пасьбішча ня дае ніякае карысьці. Сяляне павінны старацца дзяліць яго паміж сабою на паасобныя вучасткі, якія будуць уласнасьцяй кожнага гаспадара ў вёсцы.

Сенажаці і пасьцьбішчы павінны даваць добрую траву, якую ахвотна есьць жывёла, траву салодкую, пажыўную і кормную. Дагэтуль сенажаці вельмі часта зьяўляюцца цяжарам для гаспадаркі, бо з іх няма ніякае карысьці. Але была-б карысьць, калі-б сяляне пачалі дбаць аб сенажаці. Перад усім трэба старацца асушыць сенажаць. Робіцца гэта проста — капаюцца равы, куды зьбіраецца вада з сенажаці.

Пасьля трэба выраўняць грунт і ўгноіць сенажаць, ачысьціўшы яе ад моху. Сенажаць патрабуе гною таксама, як зямля, ці лепш кажучы, трава куды лепш расьце на гною, чымся без яго. Пры гэтым угнаеньне сенажаці аплачваецца лепш, чымся поля. Сяляне не павінны пакідаць без дагляду і ўправы свае сенажаці.

*„Kłosy".*

*(Працяг будзе).*

## Хваробы вымяні і лячэньне іх.

Як ведама, вымя вельмі часта, асабліва ў кароў добрых, хварэе; захворвае альбо самое вымя, альбо вымя разам з дойкамі.

Ёсьць некалькі хваробаў вымяні: пухліна, катар, рожа, запаленьне, раны, зарастаньне дояк, раны дояк і барадаўкі на дойках.

*Пухліна вымяні* — найчасьцей спатыкаецца ў добрых кароў перад ацяленьнем і ў маладых, якія першы раз целяцца, гэта ёсьць азнакаю добрай малочнасьці. Заўважыўшы пухліну вымяні ў каровы, трэба перадусім паменшыць корм і аж да ацяленьня карміць карову скромна. У выпадку, калі пухліна зробіцца балючаю пры датыканьні, трэба абавязкова абкладаць вымя халоднымі абкладамі з Буравай вады, без перапынку праз 2 пары і адначасна 2 разы ў дзень лёгка высмароўваць вымя баравою масьцю, ў працягу 10 мінутаў.

Калі-ж пухліна вымяні не балючая, трэба карову два разы ў дзень павадзіць, хоць па 20 мінутаў.

*Катар вымяні*—праяўляецца ў тым, што ма-

лако само капае з дойкаў, пры гэтым яно будзе як быццам сапсаванае і варыцца падчас гатаваньня. Здараецца гэта найчасьцей улетку, падчас вялікае сьпякоты. Хворую карову трэба часта здойваць, напрыклад што 2 гадзіны, каб у гэты спосаб пазбавіць вымя сапсаванага праз бактэрыі малака; апрача гэтага трэба два разы ў дзень уціраць у вымя чыстую камфоравую масьць, аблажыць вымя ватаю і лёгка абандажаваць на крыж. Паступаючы ў гэты спосаб, можам вылячыць вымя ў працягу 10—12 дзён. Малака ад хворае каровы, праз час лячэньня, ўжываць ня можна.

*Рожа вымяні*—будзе тады, калі вымя троха апухае, і на скуры паяўляецца запаленьне. Скура зачырванее, робіцца гарачай і балючай пры датыканьні; карова часамі губляе апэтыт. Пераканаўшыся, што карова мае рожу, трэба яе паставіць у цёплым, зацішным куце хлява, дзе няма падвею, даць ёй на ачышчэньне 50 грамаў алеясу ў паўбутэльцы вады, часта здойваць малако, проста на зямлю і раз у дзень, праз некалькі дзён, лёгка шмараваць вымя 10% іхтыолевай масьцьцю; праз гэты час карову нельга выпушчаць з хлява.

*Запаленьне вымяні* — гэта найпаважнейшая хвароба, вельмі шкодная і вымагае стараннага і ўмелага лячэньня. У каровы хворай на запаленьне вымяні, пачынае моцна напухаць чацьвёртая частка, альбо палова вымяні, датыканьне хворага месца прычыняе карове боль і малако робіцца густым, з пачатку крывавае, потым шэраватае, жоўта-белае, падобнае да гною з раны, ўрэшце цэлае вымя, альбо частка яго сьцьвярдзее і з дойкаў выцякае брудная, вадзяністая цякліна.

Здараецца так-жа часамі, што дойкі, пасьля перабытае хваробы, зарастаюць і карову трэба прадаваць на мяса. Чым раней узяцца за лячэньне і чым стараньней лячыць—тым большая пэўнасьць вылячэньня. Прыступаючы да лячэньня, трэба перадусім памятаць аб чыстаце. Дзеля таго, што запаленьне вызываецца бактэрыямі, трэба перадусім выкінуць з пад каровы гной, падлогу, альбо хляўную зямлю, трэба здызынфэкаваць, напрыклад гарачым 5% расчынам чорнае карболкі, альбо крэоліну і паслаць шмат сьвежае саломы; можна таксама карову паставіць у другі хлеў. Далей, хворае вымя трэба вымыць лёгка мылам, старанна абсушыць, і два разы ў дзень уціраць у хворую частку камфорную масьць з дадаткам 10% іхтыолю. Хворае вымя мусіць быць здойванае з усіх дойкаў што дзьве альбо тры гадзіны, міма спрацiву каровы. Калі хворае вымя зробіцца цяжкім і вялікім, трэба яго аблажыць ватаю і падвязаць чыстаю шматаю. На час хваробы трэба менш карміць карову і даваць раз у дзень, у працягу некалькіх дзён, па фунце гляўбэрскай солі ў пойле і карміць карову найлепш атрубамі і сенам, альбо добраю саломай. У цяжкіх выпадках можна з добрым вынікам рабіць уколы ў дойкі пры помачы цененькай гумовай шпрыцоўкі двупрацэнтовае карболавае вады. Калі-б на вымі стварылася скула, трэба яе разрэзаць, калі ўжо зусім дасьпее, а разрэзаўшы, штодзень трэба прашпрынцоўваць карболавае вадою, пакідаючы рану адкрытаю, засыпаючы яе толькі зьверху парашком борнага квасу; нельга ўжываць ёдаформу, бо пах яго на доўга потым можа застацца ў малаку.

*Раны на вымяні*—калі яны невялічкія і сьвежыя, дык па ачышчэньні іх ватаю і карболавай вадою, трэба мазаць штодзень цынкаваю масьцьцю, а потым ёдам. Вялікія раны, калі яны сьвежыя, трэба зашыць, дакладна прашпрынцаваўшы карболаваю вадой. Раны можна зашываць толькі ценькаю, белаю, скручанай шоўкавай ніткай, вымачанай папярэдня праз некалькі мінутаў у карболавай вадзе; іголкай калоць не бліжэй як адзін з паловай ($1^1/_2$) цэнтымэтраў ад берагу раны і сьцегі рабіць у адлегласьці аднаго цэнтымэтру адзін ад другога; завязваць моцна, тройчы.

Падчас зашываньня ня можна датыкацца пальцамі раны, хаця-б нават і чыста вымытымі. Па зашыцьці трэба швы абцёрці сухою ватай і замазаць калёдыюмам. Ніколі ня можна раны на вымі перасыпаць сублiматам, бо ён можа выклікаць затручэньне.

*Зарастаньне дойкаў*—здараецца найчасьцей пасьля перабытага запаленьня вымя; можна часамі пазбыцца яго ў наступны спосаб: хворую дойку бярэцца пальцамі, моцна выцягаецца да сябе і пры помачы малочнай нікелевай трубкі, альбо тупога, грубшага дроціка, пасмараваўшы папярэдня аліваю, прапорваецца дойкавы канал; чыннасьць гэтую паўтараць трэба штодзень, праз некалькі дзён. Успомненую малочную трубку, ці дроцік трэба перад ужыткам выгатаваць праз 15 мінутаў у перагатаванай чыстай вадзе. Каб перашкодзіць далейшаму зарастаньню дойкі, трэба ў зробленае мейсца ўвесьці ценькую струнку (ад скрыпкі) высмараваную іхтыоляваю альбо карболеваю аліваю: вонкавы канец трубкі трэба ўмацаваць звонку пры помачы ніткі і ценькага гумовага кружочка; пасьля кожнага ўдою струну трэба укладаць з паваротам, і пакуль ня вылячым.

*Скалечаньне дойкаў* — калі калецтвы павярхоўныя і лёгкія, дык загаеньне іх ня робіць вялікае труднасьці; даволі будзе мазаць іх мешанкаю льнянага алею з вапнёваю вадою па роўнай частцы. Мазаць трэба асьцярожна, перад і пасьля даеньня чыста вымытымі пальцамі.

Скалечаныя дойкі трэба вельмі далікатна даіць. Калі-б калецтвы былі-б паважнейшыя, дык трэба гэтак сама рабіць. як і пры ранах на вымі, але трэба спыніцца з даеньнем, а толькі малако выпушчаць пры помачы адумысных нікелевых трубак.

*Выцяканьне малака* з вымяні паўстаець дзеля рожных прычынаў, а іменна: ў выніку часовага аслабленьня мускулаў, замыкаючых атворыну дойкі і ў выніку стварэньня барадаўкі на канцы дойкі (зьніштожыўшы яе, выцяканьне зараз-жа спыняецца), можа быць у выніку занадта слабога даеньня, дзеля чаго замыкаючыя мускулы, не зусім належна бываюць разьвітыя; зьмена пагоды часта можа быць прычынаю выцяканьня малака.

Добрым лякарствам пры лячэньні выцяканьня малака зьяўляецца калёдыюм, якога можна дастаць у кожнай аптэцы. Ужываюць яго ў наступны спосаб: пасьля кожнага выдаеньня смаруюць калёдыумам дольную і бакавую паверхню дойкі, якую перад гэтым трэба добра выцярці сухою, чыстаю ватай, каб дойка ня была мокрай. Калёдыум мае ўласьцівасьць хуткага параваньня, пасьля чаго на скуры застаецца цененькая, роўная і добра прылягаючая плеўка, якая праз прысыханьне сьцягвае скуру і зачыняе ў такі спо-

саб дойкавую атворыву. Мазаць трэба пару разоў, а падчас кожнага даеньня сухую плеўку калёдыуму зьдзіраць, гэта болі карове не прычыняе.

---

## Ярынавы сьвятляк (Plusia gumma L.).

*Адказ грам. К. Лавышу, в. Куцькі, на пытаньне, як нішчыць рабакоў, якія напалі на лён.*

**Ярынавы сьвятляк** (Plusia gamma L.) належыць да матылёў з сям'і Начніцаў альбо Совак (Noctuidae), розьніцца аднак значна ад мноства іншых прадстаўнікоў гэтае сям'і тым, што маець на кожным з сваіх шэрых, пярэдніх скрылцаў срабрысты або залацісты знак, у форме грэцкай літары „гамма", скуль і паходзіць лацінскі назоў гатунку.

Матыль гэты, ня гэтак як яго крэўнякі, ахвотна лётае ў сонечныя дні, лёт маець характэрны. кідаецца ў бакі.

Ёсьць гэта адзін з найбольш распаўсюджаных гатункаў у цэлай Эўропе, Азіі і Паўночнай Амерыцы, стала спатыкаецца ў нас, але дзеля таго, што ня надта пераборчывы ў корме, вялікшых шкодаў ня робіць.

Толькі тады, калі ён паяўляецца ў аграмаднай колькасьці, масова, робіцца адным з найстрашнейшых шкоднікаў.

Зьяўляецца ён у нерэгулярных і, дагэтуль яшчэ ня вытлумачаных, адступах часу, напр. у літэратуры ёсьць зацемкі аб ім, запісаныя ў гадох 1735, 1816, 1828 (Усходняя Прусія), 1829, 1831, 1868, 1871 (Германія), 1879 (Заходняя Эўропа), 1900 (Англія).

Зялёныя, часамі бурнатныя, з яснымі падоўжнымі ўстужачкамі, рабакі маюць 12 адросткаўлапак, чым розьніцца ад іншых рабакоў. Дзеля таго, што бракуе ім сярэдніх адросткаў, не поўзаюць яны як іншыя рабакі, але пасоўваюцца, выгінаючы дужкавата сваё цэла. Ядуць яны лісьцьцё расьлінаў крыжовых, мятліковых, часта нападаюць на буракі, бульбу, лён, лубін, грэчку, могуць урэшце жыць, кормячыся амаль што ня ўсімі зялёнымі расьлінамі.

Ячкі пераважна бываюць складаныя на асот, бярозку і іншыя цяжкія да нішчэньня і нажаль распаўсюджаныя ў нас шкоднікі, адкуль часта, таксама, пераносяцца на збожжа і іншыя ўпраўныя расьліны.

Колькасьці, у якіх паяўляўся ўжо ня раз гэты сьвятляк, бываюць проста фантастычныя, таму, што рабак гэты пакрываў адналітаю павалокаю сваіх целаў дарогі, платы, а нават зарослую водную паверхню сажалкаў; выпаўнялі яны сабой равы, ствараючы жывыя масты, пажыраючы ўсенькую напатканую зелень.

Шкоды, зробленыя гэтым рабаком, прыпаміналі, легендарныя ўжо ў нашыя часы, напады саранчы.

Цяпер якраз шмат рабакоў сьвятляка прадзе белую, падобную да павуціны, пражу між лісьцьмі і ў ёй пераходзіць у чорна-бурую лялячку, з якой па двох тыднях выходзіць сам матыль.

Аб часе паяўленьня матылёў можна пазнаць па тым, што яны ў вечары праз вакно лятуць на сьвет у хату.

На шчасьце сьвятляк гэты мае шмат прыродных ворагаў, якія прычыняюцца да таго, што ён рэдка можа доўга шкодзіць, аднак вядомы выпадкі, калі ён распаўсюджваецца і пустошыць поле праз некалькі гадоў. З птушкаў, якія асабліва зьнішчаюць сьветляка, перадусім трэба адзначыць шпакоў, варонаў, віраб'ёў, курэй, крапіўкаў, буслаў і г. д. Зьнішчаюць іх так-жа і некаторыя жукі, а ў целе іх вядуць руйнуючую працу мухі і рабачкі.

Страты робіць гаспадаром гэты шкоднік і змушаець прыроднікаў шукаць спосабаў зьнішчэньня яго· З пасярод мноства спосабаў — шмат было і добрых — аднак ідэальнага спосабу, такога, каб адразу заўсёды і ўсюды, лёгка і танна можна было-б шкодніка зьнішчыць, — няма.

Кожны затое, з ніжэйпададзеных спосабаў у пэўных выпадках даваў пажаданыя вынікі.

Выбар аднаго, або некалькіх з іх пакідаецца пакуль-што гаспадару, бо выбар гэты залежыць кожны раз ад цяжкіх да прадбачаньня абставінаў, — гэтакіх, як пара году, пагода, колькасьць шкоднікаў, плошча засеву абнятага шкодай, заможнасьць гаспадара, тэхнічныя прычыны і іншыя гаспадарчыя варункі.

Дзеля падазеных вышэй повадаў, падаем некалькі спосабаў зьнішчэньня шкодніка, практыкаваных з менш або больш удатным вынікам:

1. Ручны збор рыбакоў, або пры помачы чарпака (пэркалёвы, або палатняны мяшок на драцяным абручу, прымацаваны да кія) падобнага да сетак ужываных дзеля лоўлі мятлікаў.

2. Страсаньне рабакоў на зямлю і затоптваньне іх.

3. Зьбіраньне, або душэньне лялячак шкодніка на расьлінах.

4. Спрыскваньне расьлінаў расчынам парыскай зеляні ў вадзе з вапнай. Росчын гэты мае шырокае застасаваньне ў гародніцтве.

5. Лаўленьне мятлікаў сеткай або адганяньне іх з палёў пры помачы паленьня сухога гною з серкай у часе складаньня ячак.

6. Кашэньне і загорваньне або прытоптываньне вальцамі вельмі апанаваных шкоднікам палёў.

7. Абкопваньне равамі з прастападлымі сьценкамі палёў, апанаваных рабакамі, дзеля перашкоджаньня пераходу іх на іншыя палі, яшчэ не заражаныя. Рабакі, якія апыняцца ў раве, трэб зьнішчаць, душыць, засыпваць перапаленым вапнам, або заліваць сьвежа прыгатаваным вапнёвым малаком.

Добра таксама ў рове павыкопваць глыбейшыя студзенкі, у якія можна рабакоў зьмятаць і засыпаць зямлёю, ўбіваючы яе.

8. Выганяць на поле курэй або індыкаў.

9. Зьнішчэньне тых дзікіх расьлінаў, на якіх яны звычайна кладуць ячкі.

Найлепшыя вынікі дасьць зьбіраньне рабакоў дзяцьмі. Страсаючы рабакоў, якія пры кратаньні расьліны скручваюцца ў клубочак і ападаюць на зямлю, трэба таптаць іх, або зьбіраць.

Каб лавіць лятаючых матылёў асабліва падчас раеньня, робяцца фанары.

Фанары гэтыя робяцца з бочак напр. з пад цэменту, у якіх вырэзваюцца вахонцы на чатыры бакі. Сьценкі бочкі трэба вымазаць ліпкай масьцяй, да каторай матылі ліпнуць. На дне бочкі трэба паставіць нечага салодкага (напр. сыроп), да чаго дадаём чагось пахучага, каб больш захвоціць матылёў.

Некаторыя радзяць паставіць у полі начыня з атручаным расчынам сыропу, затручанага бураксам, саліцылям і т. п.

---

# ПЧАЛЯРСТВА.

## Падсажваньне маткі.

Пагутарыўшы наперад з паважанымі чытачамі аб штучным і натуральным вывадзе матак, я лічу патрэбным апісаць да гэтага, якім спосабам выгадаваную натуральна, ці штучна матку, падсадзіць патрабуючым яе абязматчаным пчолкам, ці тым, у якіх мы хочам замяніць старую, горшую матку лепшаю, новаю.

Падсажваньне ў вулей новых матак вымагае ад пчаляра вялікае ўвагі і асьцярожнасьці дзеля таго, што пчолы ніколі ня прымуць даную ім новую матку адразу, яны мусяць з ею асвоіцца, мусяць яе прызнаць сваёю. Станецца-ж гэта толькі тады, калі матка здоляе прывучыць пчолак да сябе, і калі яна набярэць таго асабліва паху, які мае кожын вулей; ў іншым выпадку пчолы загрызуць матку і вулей надалей застанецца бяз яе, да таго часу пакуль пчолы, калі ў іх ёсьць чарва, не заложаць сабе новых матачнікаў і не вывядуць сваей ўласнае маткі.

Каб падсадзіць у абязматчаны вулей новую матку, альбо замяніць ў якімсьці вульлі старую няўдольную новаю, трэба мець на ўвазе тое: каб пчолы ў міжчасе пад жаднаю прычынаю не залажылі ў сябе матачнікаў, бо калі такія будуць заложаныя, дык пчолы ўсяроўна данае ім маткі ня прымуць. Дзеля гэтага пры падсажваньні новае маткі трэба зьвярнуць на гэта ўвагу і калі знойдуцца ў нашым вульлі заложаныя матачнікі, то альбо іх, хочучы даць лепшага гатунку матку, трэба павырэзваць, альбо зноўжа не даваць маткі зусім і заставіць вулей надалей бяз маткі, аж пакуль пчолы ня выседзяць свае.

Што да самага падсажваньня маткі, дык яе ніколі адразу ня можна пускаць ў вулей так, а абавязкова трэба засадхіць ў адумысную, дзеля гэтае мэты зробляную, клетачку—матачнік і ў гэтай клетачцы ўсадзіць яе ў наш вулей.

Па двух днёх, атворыну ў клетачцы, заместа корка, заляпіць ня тоўстым слоем воску зьмешанага з мёдам, а гэта дзеля таго, каб пчолы самі маглі прагрызьць атворыну і звольніць матку з клетачкі. Дзеля гэтага ім найлепш надаецца клетачка Дадала. Есьць гэта некалькі сантымэтровы цыліндар зробляны з дротавае сеткі, ў такі спосаб, што адзін канец гэтага цыліндру па ўпушчэньні да яго маткі затыкаецца коркам, другі канец зусім аткрыты, які перад упушчэньнем туды маткі залепліваецца воскам зьмешаным з мёдам і гэткім чынам прыгатаваны матачнік стаўляецца ў вулей. Пчолы, прывыкнуўшы ўжо да новае маткі, самі звольняць яе с клетачкі і яна застанецца ў вульлю. Перад тым аднак, як пчолы выпусьцяць матку, трэба заглядаць некалькі разоў ў вулей каб сьцьвердзіць, як захоўваюцца пчолы, згрызаючы воск. Калі пчолы пры згрызваньні воску, будуць сільна з адзнакамі гневу ціснуцца да матачніка, зьяўляецца ясным тое, што хочуць дабрацца да маткі каб яе зьніштожыць. У такім выпадку трэба адлажыць звальненьне маткі яшчэ на дзень; наляпіўшы на воск кусочак паперы, альбо нават і штучнае вузы. Калiб, паміма гэтага, назаўтра пчолы яшчэ будуць сілаю ціснуцца да матачніка, трэба перагледзяць вулей і пераканацца ці ў їм часамі няма заложаных новых матачнікаў; па зьніштажэньню іх, калі яны знойдуцца, пчолы ўспакояцца і перастануць з гневам кідацца да матачніка. Тады і толькі тагды можна ім пазволіць адчыніць атвор матачніка, калі яны далікатна з увагаю абсядуць клетачку, і не ціснучыся да яе махаюць з радасьцю крыламі.

Матка тады будзе прынятая ў вульлі: 1) калі пчолы будуць асірочаныя г. ё. калі яны зусім ня будуць мець маткі; 2) каб пчолы ляпей прынялі матку, дык вулей павінен быць забяспечаны ад нападу і рабунку другіх пчолаў, якія, як ведама, надта ахвочыя нападаць на абязматчаны вулей; 3) калі вулей мае матку—трутоўку, дык трэба ад яе пазбавіцца, тымі спосабамі, якімі я радзіў, бо ў іншым выпадку пчолы ня прыймуць данае ім маткі; 4) пчаляр, падсаджваючы ў вулей новую матку, павінен дбаць аб тым, каб яе не перапалохаць, дзеля таго, што напалоханая матка кідаецца ў матачніку на ўсе бакі і гэтым адбіваець ад сябе пчолак, вызываючы ў іх недавер да сябе; 5) пчолы, з пачатку не спрыяючыя матцы, прывыкнуць да яе, калі яна набярэць паху таго вульля, ў які мы яе пасадзілі.

Усе гэтыя даныя навучаюць пчаляра, ў які спосаб і ў якіх выпадках трэба пчолам падсаджываць матку.

Найлепшым тэрмінам падсаджываньня новых матак будзе той час, калі асірочаныя пчолкі, перад тым яшчэ, як яны заложаць ратунковыя матачнікі, пачнуць жудасна выць, бегаючы па вульлі, як быццам чаго шукаючы.

Матачнік з маткаю умяшчаецца паміж гняздовых матачнікаў там, дзе есьць найбольшае скупленьне пчолак. Матачнік трэба ўставіць так, каб матка і даданыя ей служэбныя пчолы, ўзятыя разам з маткаю з таго вульля, дзе яна выгадавалася, маглі самі карміцца запасамі вульля.

Трэба адзначыць, што найлепш пчолы прыймаюць матку, калі яна ім надта патрэбная, каб запэўніць ім патомства і спакой, г. знача тады, калі пчолы размнажаюцца з вялікаю ахвотаю і скорасьцю.

Гэтак сама і ў часе багатага пажытку на полі, пчолы прыймаюць ахвотна матку; дзеля гэтага калі часамі прыдзецца дадаць пчолам матку восяньню, калі ўжо няма на полі натуральнага пажытку, дык абавязкова трэба стварыць для таго вульля, ў які падсажваем матку, штучнае падкормліваньне пры помачы сыты, гледзючы пры гэтым, каб не спавадаваць нападу на вулей чужых пчол, а за гэтым і рабунку, дзеля таго, што пчала надта недаверчыва адносіцца да чужых пчол, а за тым і да новае маткі аднясуцца з неахвотаю.

Калі ратуем пчол, асірочаных ўжо ад даўжэйшага часу, дык трэба пры гэтым памятаваць, што пчолы старэйшыя трудней прыймаюць матку, чым маладыя. Каб старыя, даўно ўжо асірочаныя пчолы, ляпей прынялі даную ім матку, можна даць ім адну рамку маладое мухі з другога, а сярэдняй сіле, вульля ўзятую ў самы поўдзень, калі ўсе старыя пчолы знаходзяцца ў полі на рабоце. Дадаваньне мухі ад моцнага, вялікага вульля магло-б выклікаць рабунак, альбо ўзаемнае адціананьне, дзеля таго, што пчолы чым мацнейшыя, тым скланнейшыя да адціананьня і рабаваньня другіх слабейшых, асабліва тых, якія былі праз даўжэйшы час асірочанымі. На ўсё гэта трэба надта ўважаць і памятаваць аб тым, што каліб хаця некалькі старых пчолак трапіла да нашага

асірочанага вульля — дык і тыя магліб выклікаць ўзаемную вайну паміж сабою.

Каб непрактычнаму пчаляру ўнікнуць ўсяго гэтага, дык найляпей будзе даць рамку чарвы, якая ёсць на дзень перад выхадам з чарачак. Пчолы звычайна прыймаюць матку за 48 гадзінаў, маладая муха выйдзець з чарачак за 24 гадзіны, значыцца яшчэ 24 гадзіны яна будзе браць удзел, разам са старымі пчоламі, ў прыняцці маткі.

Ня трудна падсадзіць матку і ў рой. Калі пчолы сабіраюцца раіцца, дык яны ахвотна прыймуць матку, трэба толькі іх пазбавіць сваей старой нязудольнай маткі. Робіцца гэта так: бярэцца той вулей, ў якім мы хочам зьмяніць матку і які мае ахвоту раіцца. Выймаем з яго матку, а ўсіх пчолак страсаем з рамак ў раёўню, пасадзіўшы туды маладую матку ў матачніку. Калі ўсе пчолы сабяруцца ў раёўню, асаджываем іх ў наш стары вулей, як звычайны рой; пры гэтым нават можна выпусьціць матку з клетачкі і яна па прылетнай дошчачы папаўзець разам з пчоламі ў вулей. Гэты спосаб хаця і вымагае трохі часу, але за тое амаль заўсягды дае добрыя вынікі, калі ўсе прыгатаваньні і выкананьне добра зробляны.

*Пчаляр.*

# Корэспондэнцыі.

### Ахвяры вайны.

*(в-ка Ганчыцы, Валожынскага павету).*

Хоць дзесяць гадоў мінула ўжо з таго часу, як перасталі над нашымі вёскамі гудзець гарматы, трымаючы ў няпэўнасьці істнаваньне нашага селяніна, але сьляды гэтае страшнае мінуўшчыны засталіся яшчэ шмат дзе ня зьнішчаны і вельмі балюча даюць знаць аб сабе нашаму сялянству. А найболей пры доўгатрывалым Расейска-Нямецкім фронце, які якраз праходзіў праз нашую мясцовасьць. Надовечы здарылася ў нас гэткае здарэньне, ахвярай якога аказаліся тры маладыя хлапцы нашай вёскі. Аднаго дня пасьвілі стадка авечак успомненыя хлопцы ў бліскім лесе і знайшлі старую гранату. Не зразумеўшы што гэта такое, што можа здарыцца ад гэтага сьмерць або вечнае калецтва, яны, палажыўшы на камень, хацелі яе разьбіць і задаволіць сваю дзіцячую цікавасьць: „Што там знаходзіцца ўнутры?“ І першы ўдар каменям узарваў гранату, адначасна і моцна параніў маладых хлапцоў. Першаму з іх А. Ж. адарвала зусім правую руку, так што хлапец застаўся вечным калекай. Другому параніла ногі, а трэцьцяму жывот, але раны апошніх менш страшныя.

Вось з гэтага відаць, што вайна і праз дзесяць гадоў забярае свае ахвяры з нашае вёскі.

*Вясковы.*

**Чытайце, выпісвайце і пашырайце „БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ“.**

# Аб усім патроху.

### Каштоўны лёт.

Лёт італьянскага гэнерала Нобіле да паўночнага полюса будзе шмат каштаваць Італіі. Ня лічачы коштаў самой выправы і разьбітага аэраплянa, трэба будзе заплаціць за ўсе выправы, каторыя выбіраліся ратаваць гэнерала і яго застаўшыхся на лёдзе таварышаў. Шукалі іх да гэтага часу 11 выправаў на санях, 20 караблёў і 24 аэрапляны. У гэтых пашуківаньнях узяло дагэтуль удзел каля 2.000 асоб!

Караблі гэтыя:

| | | |
|---|---|---|
| Citta di Milano (італ. | 250 | людз. абслугі. |
| Красін (рас.) . . . . | 350 | „ „ |
| Малыгін (рас.) . . . | 120 | „ „ |
| Штрасбург (франц.) | 475 | „ „ |
| Русвэльт (франц.) . | 80 | „ „ |
| Нордэнскэльд (нарв.) | 300 | „ „ |
| Браганца (нарв.) . . | 16 | „ „ |
| Гоббы (нарв.) . . . | 18 | „ „ |
| Інгэр IV (нарв.) . . | 12 | „ „ |
| Квэстр (нарв.) . . . | 17 | „ „ |
| Таня (нарв.) . . . . | 17 | „ „ |
| Марыта (нарв.) . . . | 12 | „ „ |
| Гаймдал (нарв.) . . | 13 | „ „ |
| Міхаіл Сарс (нарв.) . | ? | „ „ |
| Бэсле Карі (нарв.) . | ? | „ „ |
| Разам наймэнш | 1630 | людз. абслугі. |

Выправы летакоў:

| | | |
|---|---|---|
| Сем швэдскіх . . | 55 | людзей |
| Амудсэн—Гільбо . | 5 | „ |
| Фінскі аэраплян . | 4 | „ |
| Тры расейскія . . | 12 | „ |
| Тры італьянскія . | 15 | „ |
| Разам . . | 91 | людзей |

Колькі людзей узяло ўдзел у выправах на санях, ня ведама. Італьянскі бюджэт выказвае і так 4 мільярды ліраў дэфіцыту, вось-жа яшчэ 10-30 мільёнаў ня зробіць ўжо гэтак вялікай рожніцы. Найгоршае тое, што ўвесь сьвет крычыць, што Нобіле не павінен быў, як комэндант пакідаць сваіх людзей, ратуючыся ў першую чаргу сам.

# Апошнія навіны.

**Амэрыка. Падпісаньне пакту Кэллога.** У гэтых днях адбудзецца у Парыжы ўрачысты акт падпісаньня пакту Кэллога. Пакт Кэллога, амэрыканскага міністра заграпічных справаў, накладае абавязак ліквідацыі ўсялякіх міждзяржаўных канфліктаў шляхам узаемных мірных перагавораў. Заданьнем пакту ёсьць агранічэньне магчымасьці вайны. Пакт Кэллога падпішуць міністры замежных справаў тых дзяржаваў, якія былі запрошаны. С.С.С.Р., якой не запрасілі падпісаць пакту, вуснамі Чычэрына востра выступіла проціў пакту, як быццам скіраванага проціў С.С.С.Р. Таксама нямецкія нацыяналістыя выступаюць проціў пакту, які, паводле іх, агранічае магчымасьць перагляду і зьмены дзяржаўных граніц.

**Швайцарыя.** Найбліжэйшая сэсыя Лігі Нацыяў, якая зьбярэцца ў Жэнэве ў першых днёх верась-

ня, будзіць вялікае зацікаўленьне. На гэтай сэсыі Ліга Нацыяў мае разгледзяць справу польска-літоўскіх адносін. Чакаюць, што Ліга Нацый захоча аканчальна вырашыць справу польска-літоўскага спору.

**Літва.** Польскі і літоўскі ўрады абмяняліся нотамі ў справе далейшых перагавораў. Польскі ўрад у сваей ноце прапанаваў сабрацца дэлегацыям абедзьвюх дзяржаваў на нараду 25 жніўня ў Жэнэве. Літоўскі ўрад адказаў, што, з увагі на скорую сэсыю Лігі Нацыяў, літоўская дэлегацыя ня зможа прыбыць у Жэнэву. Тады польскі ўрад запрапанаваў сабрацца перад 25.VIII—у Кэнігсбэргу. На гэту прапазыцыю літоўскі урад ня даў катэгорычнага адказу. У сваей ноце праф. Вольдэмарас кажа, што ініцыятыва скліканьня нарады належыць да польскае дэлегацыі і яна з гэтага павінна скарыстаць.

Адным словам літоўскі ўрад стараецца адцягнуць перагаворы да часу сэсыі Лігі Нацыяў.

**Вялікі працэс проціў учасьнікаў бунту ў Таўрогах.** У хуткім часе пачнецца перад ваенным судом у Літве працэс проціў учасьнікаў паўстаньня ў Таўрогах. Агулам абвінавачаных ёсьць 122 асобы, з іх толькі 66 стане перад судом, бо рэшце удалося збегчы заграніцу.

Пракуратура паклікала 277 сьведкаў. Працэс патрывае 2 месяцы.

**Забарона прыезду клайпэдзкім купцам.** Літоўскі ўрад не даў дазволу на прыезд клайпэдзкім купцам на паўночны кірмаш ў Вільню. Адначасна купцам заяўлена, што калі-б яны не паслухалі і паехалі, то будуць пацягнены да судовае адказнасьці.

**Югаславія. Сьмерць павадыра харватаў Сьцяпана Радзіча.** Па некалькі тыднёвай цукровай хваробе памёр ў Загрэбі, сталіцы Харватыі, Радзіч. Пагаршэньне і сьмерць Радзіча была скуткам ранаў, якія ён атрымаў на паседжаньні скупшчыны (парляманту). Сьмерць Радзіча пакрыла жалобай усю Харватыю. У хаўтурах узяло удзел 200.000 народу, у гэтым ліку больш 100 тысяч харвацкіх сялян. У сваім тэстамэнце заклікае Радзіч харватаў да спакою. Сваім наступнікам вызначыў Радзіч, Трумыча, павадыра радыкальнае часткі харвацкае сялянскае партыі. Харвацкая коаліцыя адмовілася ўзяць удзел у працы скупшчыны і новага ўраду. Першае жаданьне харватаў — развязаньне скупшчыны і правядзеньне новых справядлівых выбараў. Пакуль гэта ня будзе зроблена, датуль харваты не паедуць у Бэльград, сталіцу Харватыі. Далейшыя дамаганьні — гэта зьмена конституцыі і сыстэмы цэнтралізацыі, фэдэрацыя і інш.

**Альбанія каралеўствам.** На гэтых днях альбанскі дыктатар Ахмэд-Зогу, які ёсьць бязвольным інструмэнтам у руках Муссоліні, мае аб'явіць сябе каралём. Аб'яўленьне Ахмэд-Зогу каралём наступіла-б хутчэй, але на перашкодзе стаяла гэтаму гарачыня. З прычыны гарачыні не маглі зьехацца паслы альбанскага парлямэнту, якія маюць прыняць пастанову аб зьмене дзяржаўнага ладу.

**Англія.** У Англіі адбыліся вялікія манэўры паветраннага флёта.

Быў зарганізаваны напад на Лёндан, сталіцу Англіі. Бараніла Лёндан 150 самалётаў, а нападала 100. Вынікі манэўраў далі сумныя рэзультаты. Аказалася немагчымым абараніць вялікае места, нават калі-б абарона была некалькі раз сільнейшая. 100 самалетаў могуць праз гадзіну збамбардаваць Лёндан, астаўляючы на месцы вялікага гораду, адны толькі руіны. Вось як будзе выглядаць новая вайна з дабаўкай яшчэ труючых газаў.

**Выбары у Грэцыі.** Выбары у Грэцыі прынеслі абсалютную перамогу павадыру грэцкіх лібэралаў Вэнізэлосу.

На 250 мандатаў, партыя лібэралаў здабыла 220. Б. дыктатар Пангалёс, які выставіў свой сьпісак, здабыў адзін мандат.

**Кітай.** Кітайскі Нанкінскі ўрад пастанавіў сарваць дыпляматычныя адносіны з Японіяй. Зрыў дыплёматычных адносін між Кітаем і Японіяй можа давясьці да вайны на Далёкім Усходзе.


**Навагрудзкая Беларуская Гімназія прыродна-матэматычнага тыпу з чатырма першымі праўнымі клясамі, паведамляе аб наступным:**

1. Дзеля таго, што прыймо новых вучняў у Гімназію, у восені, можа адбывацца толькі з асобнага дазволу для кожнага вучня з боку Куратарыюма, Дырэкцыя Гімназіі прапануе ўсім бацьком і апякуном падаваць у Дырэкцыю Гімназіі на імя „Kuratorjum Okręgu Szkolnego Wileńskiego“ просьбы загадзя, найпазьней 3-га верасьня, каб Дырэкцыя мела час скіраваць іх у Куратарыюм і да пачатку экзаменаў мела-б вымаганы дазвол.
2. Экзамены будуць ад 10 да 15 верасьня.
3. Да просьбаў трэба далучыць: а) мэтрыку аб нараджэньні вучня; б) пасьведчаньне доктара аб стане здароўя і прышчэпе воспы; с) пасьведчаньне аб адукацыі.

Дырэкцыя Гімназіі.

**Карболінэум**

(праўдзівы, жывічны).

Зьберагае старыя страхі і дзераўляныя будынкі.

Страхі з „Карболінэум“ на новых будоўлях не дапускаюць да іх грыба і зьберагаюць на доўгі час будоўлю.

— Цана такой страхі невялікая. —

Купляць можна ў складзе

**ZYGMUNT NAGRODZKI**

**Wilno, Zawalna Nr. 11-a.**

Хто з уласьнікаў драбнейшых гаспадарак хоча мець праўдзівую добрую малатарню няхай купіць

**„КУТНАВЯНКУ“**

штыфтавую, цэпавую альбо шыракамалотную, хто якую хоча, кожная з іх будзе аднальк. добр.; а манэжы да іх „Арол“, DAW або С. Знойдзеце гэтыя в. добрыя машыны у складзе **Zygmunta Nagrodzkiego**, Wilno, Zawalna 11-а. Хто хоча атрымаць на выплату, няхай прадставіць складу пасьведчаньне волásьці аб тым, што мае.


Адказны Рэдактар і выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3